20 ЛІПЕНЯ 1999г. АЎТОРАК

# НАВІНЫ

№80 (611) КОШТ СВАБОДНЫ




стар.3

# Хто гарантуе бяспеку спікеру?

## Старшыня Вярхоўнага Савета Сямён Шарэцкі змяніў небяспечную ўласную кватэру на памяшканне АБСЕ

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

**Старшыня Вярхоўнага Савета 13-га склікання Сямён Шарэцкі, які пасля 20 ліпеня робіцца легітымным кіраўніком краіны, не на жарт непакоіцца за сваё жыццё. У гэты уік-энд з ім здарылася амаль дэтэктыўная гісторыя.**

Па нашых звестках, у суботу зранку Сямён Георгіевіч выклікаў да сябе дадому машыну з місіі Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе і папрасіў завезці яго ў офіс місіі. Там Шарэцкі запатрабаваў ад еўрапейскай арганізацыі гарантыяў сваёй недатыкальнасці – каб яго не пасадзілі за краты напярэдадні 21 ліпеня. У місіі АБСЕ ўзнялася паніка. Ні ў суботу, ні ў нядзелю, ні ў панядзелак ні адзін з супрацоўнікаў місіі не пагаджаўся пацвердзіць, што мяцежны спікер у іх – звычайна адкручваліся фразамі кшталту: «Нам нічога невядома на гэты конт».

Адначасова распачаліся актыўныя дыпламатычныя перамовы – як стала вядома з нашых крыніцаў, з АБСЕ тэрмінова тэлефанавалі ў амерыканскую амбасаду за парадай – «Што рабіць з Шарэцкім?». Амбасада тое самае пыталася ў Вашынгтона. Вашынгтон выставіў прэтэнзію Аляксандру Лукашэнку за чарговае парушэнне правоў чалавека і пераслед апазіцыянераў. Лукашэнка, у сваю чаргу, «наехаў» на Савет бяспекі і сваю адміністрацыю. Маўляў, ён прамога загаду на арышт апазіцыянераў не даваў. Адміністрацыя і СБ сталі ціснуць на АБСЕ – «аддайце нам нашага Шарэцкага!».

Пазней стала вядома, што Шарэцкаму ніякіх гарантыяў не далі – аднак пасялілі ў гатэлі пры Міжнародным адукацыйным цэнтры, дзе некалькі пакояў адмыслова зарэзерваваныя для АБСЕ. Там ён правёў дзве ночы – а ўчора зранку ўжо з'явіўся на закрытым паседжанні прэзыдыума ВС.

Учора Сямён Шарэцкі катэгарычна адмовіўся ад таго, што нібыта прасіў палітычнага прытулку ці гарантыяў сваёй асабістай бяспекі. Больш за тое, на пытанне карэспандэнта НАВІНАЎ: «Дзе вы правялі апошнія дні? Хіба не ў апартаментах АБСЕ?» Сямён Георгіевіч вальяжна адказаў: «А чаму вы ўвогуле лезеце ў маё асабістае жыццё? Можа, я з дзяўчатамі ўсю ноч забаўляўся!»

Па нашых дадзеных, Сямён Шарэцкі сапраўды патрабаваў гарантыяў ад місіі АБСЕ. Але там вырашылі не приспешваць падзеі і абмежаваліся толькі тым, што прадаставілі спікеру адзін з сваіх апартаментаў у гатэлі. Каб неяк прасвятліць сітуацыю для настойлівай прэсы, Шарэцкаму давялося адступіць і распавесці дрэнныя «хатнія загатоўкі» пра дзяўчат і асабістае жыццё.

А тым часам супрацоўнікі АБСЕ апускаюць заслону сакрэтнасці вакол спікера: маўляў, наступіць 21-е, і вы ўсё пабачыце. Ужо чакаем! ■



Фота Ул.ШЛАПАКА

● Толькі ў панядзелак **Сямён Шарэцкі** навожыўся выйсці на пару хвілінаў з свайго сховішча – каб зноў вярнуцца ў АБСЕ.



Фота Ул.ШЛАПАКА

● На машыне АБСЕ **Сямён Шарэцкі** быў дастаўлены зранку ў суботу ў офіс кансультатыўна-назіральнай місіі.

ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ

### Васіль Быкаў у Мінску

15 ліпеня ў Мінск прыехаў Народны пісьменнік Беларусі Васіль Быкаў. Як вядома, ён ужо другі год па запрашэнні ПЭН-цэнтра Фінляндыі жыве і працуе ў гэтай краіне. У Мінску пісьменнік прабудзе не больш як 8–10 дзён, пасля чаго вернецца ў Фінляндыю.

### Кітай супраць Тайваня

Кіраўнік кітайскай дзяржавы Цзян Цзэмінь паведаміў амерыканскаму прэзыдэнту, што Кітай гатовы ўжыць ваенную сілу супраць Тайваня. Кітай ніяк не хоча развітацца з кавалкам тэрыторыі, якая калісьці была кітайскай, і не хоча прызнаваць Тайвань як самастойную дзяржаву.

### Загінуў сын прэзідэнта Кенэдзі

У пятніцу вечарам прыватны самалёт, на борце якога знаходзіўся 38-гадовы Джон Фіцджэральд Кенэдзі-малодшы разам са сваёй жонкай, знік у водах Атлантычнага акіяна ў раёне ўсходняга штата Масачусетс (ЗША). Пазаўчора з вады былі выцягнутыя рэшткі самалёта і рэчы з прыватнага багажу сям'і Кенэдзі.

Сын прэзідэнта Кенэдзі нарадзіўся ўсяго за два месяцы да таго, як ягоны бацька стаў 35-м прэзідэнтам ЗША. Ён атрымаў юрыдычную адукацыю і ніколі не займаўся палітыкай. Часопіс People аднойчы назваў яго «самым сексуальным жывым мужчынам».

*Падрыхтаваў Расціслаў ПЕРМЯКОЎ*

наша свабода

НАДВОР'Е




21–22 ліпеня па **Мінскай, Гомельскай, Віцебскай і Магілёўскай** абласцях чакаецца пераменная воблачнасць. 21 ліпеня ноччу па ўсходзе, днём па заходніх раёнах – кароткачасовы дождж, навальніца. 22 ліпеня месцамі па рэспубліцы кароткачасовыя дажджы, навальніцы, вецер заходні, 4–9 м/сек, пры навальніцах – 12–14 м/сек. Тэмпература ноччу 11–16. Па **Брэсцкай і Гродзенскай** абласцях пераменная воблачнасць, месцамі кароткачасовыя дажджы, навальніцы, ноччу 21 ліпеня без ападкаў, вецер заходні, 4–9 м/сек, пры навальніцах – 12–14 м/сек, тэмпература ноччу 11–16.

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**

**440 000**

СКАНДАЛ

# «Жукі» пад сталом

## Дэпутатаў і дыпламатаў праслухоўваюць

Міхась КАРПОВІЧ

**У чацвер у памяшканні кансультатыўна-назіральнай місіі АБСЕ ў Беларусі падчас сустрэчы з апазіцыяй быў выпадкова знойдзены... «жучок». Адным з удзельнікаў гэтай сустрэчы быў Анатоль Лябедзька. Вось што ён распавёў:**

– Гэта была сустрэча старшыні АБСЕ Адрыяна Северына з дэпутатамі Вярхоўнага Савета. Там былі Шарэцкі, Ганчар, я, Домаш, Гірыць і Калякін. Падчас гутаркі адна супрацоўніца выпадкова засунула руку пад стол, выцягнула «жучок» і паклала яго на стол. Ён быў не вялікі, але і не маленькі. Потым гэтая супрацоўніца выйшла і, здаецца, перадала «жучок» тым, хто мусіць адказваць за належнае тэхнічнае абсталяванне і бяспеку такіх сустрэчаў.

Цікава, што якраз у гэтыя хвіліны ішла размова пра месца маючых адбыцца перамоваў, і мы казалі, што Беларусь – не самае надзейнае месца... І тут супрацоўніца дастае 3-пад стала «жучок».

Ведаеце, напраўду ніхто з удзельнікаў не быў здзіўлены. Як вы, можа, памятаеце, у свой час Лукашэнка абвінавачу заходніх амбасадараў у змове супраць яго і ўзгадаў некаторыя падрабязнасці, якія абмяркоўваліся падчас прыватнай сустрэчы ў рэзідэнцыі брытанскай амбасадаркі Джэсікі Пірс.

У Лукашэнкі ёсць проста маніякальная схільнасць – пра ўсіх усё ведаць. Дарэчы, на сённяшні дзень Міжнародны адукацыйны цэнтр, дзе месціцца і АБСЕ, – гэта адзінае месца, дзе апазіцыя можа нармальна сабрацца і нешта правесці. Я думаю, што ў свой час Лукашэнка і ягонае атачэнне вырашылі: няхай будзе хоць адно такое месца, адкуль можна даведвацца пра ўсе планы апазіцыі; гэта лепш, чым калі б дэпутаты збіраліся ў некага на кватэры і прыватным чынам усё вырашалі. Так што, на маю думку, гэты Цэнтр можа быць проста нашпігаваны «жучкамі» і іншымі падслухоўваючымі прыстасаваннямі.

***– Ці былі падчас гэтай сустрэчы закранутыя нейкія «канфідэнцыйныя» тэмы?***

– Не, мы імкнёмся, каб усё, што мы робім, было празрыстым. Натуральна, што падчас сустрэчы з Северынам мы не абмяркоўвалі ні планаў па захопе ўлады, ні планаў дзяржаўнага перавароту.

***– А як паставіўся да ўсяго гэтага сам Северын?***

– Не толькі сам Северын, але ўсе ўспрынялі з'яўленне таго «жучка» з гумарам. І, відаць, ні для каго гэтая знаходка не стала сенсацыяй. Тым болей, што Адрыян Северын сам паходзіць з такой краіны (Румыніі – **Рэд.**), дзе яшчэ не так даўно дзейнічалі спецслужбы Чаўшэску. Наколькі я ведаю, Северын у свой час і мітынгаваў на вуліцах, і хадзіў пад танкі...Так што здзіўленых не было. ■




З КАСТУСЁМ ТАРАСАВЫМ

## Гарант сямігодкі

Сёння апошні дзень прэзідэнцкіх паўнамоцтваў Аляксандра Лукашэнкі. Сёння мог бы ўрачыста прысягаць на вернасць народу і Канстытуцыі другі прэзідэнт ці першы на свой другі тэрмін, калі б не была «дапоўненая і папраўленая» Канстытуцыя 1994 года. Ухваленне паправак і дапаўненняў на рэферэндуме, які адбыўся за тры гады да сканчэння тэрміну прэзідэнцтва Лукашэнкі, дазволіў гаранту канстытуцыі назваць сябе асноўным ствалом для ўсіх галінаў улады і распачаць з нуля адлік новай пяцігодкі вернасці народу . Дзякуючы гэтаму беларускі народ быў азнаёмлены з законамі інтэгральнай матэматыкі: 2 плюс 3 раўняецца 7.

Ёсць шмат людзей, якія прынялі гэта за норму. Таму прыходзіцца думаць, што рэакцыя нашага грамадства застанецца ў звычайных межах: актыўная частка будзе заклікаць да справядлівасці і супраціўлення, а глуханямая бальшыня будзе занятая прыватнымі клопатамі ды ўвагай да праграмы «Славянскага базару». Таму наступных выбараў прыйдзецца чакаць яшчэ два гады. Пры той, зразумела, умове, што прэзідэнт зноў не ініцыюе чарговы рэферэндум пра «дапаўненні і папраўкі», якія дазволяць перарабіць сем гадоў у дзесяць.

Нашае грамадства пакуль не бурліць патрэбаю зменаў і таму не спяшаецца да прэзідэнцкіх выбараў. Яно не назапасіла яшчэ патрэбнай нязгоды і патэнцыі. Так што замест выбараў, інаўгурацыі, прэзідэнцкіх абяцанак у нас сёння пануюць цішыня і абыякавасць. Людзі ходзяць пры ўласным клопаце і пры сваіх думках. Адны думаюць, што з заўтрашняга дня прэзідэнт Лукашэнка становіцца узурпатарам, другія супакоеныя тым, што узурпацыя ўлады мае падмуркам рэферэндум, і таму, маўляў, законная. Як кажа прыказка: у каго сіла – той і пан.

Паколькі галоўным носьбітам улады ёсць беларускі народ, дык ён і нясе ўладную суполку на сваіх плячах, і будзе трывала несці яшчэ два гады. Колькі цярплівых — столькі гарантаў сямігодкі першага прэзідэнта.

ФОТАФАКТ



Фота Ул.ШЛАПАКА

● Сустрэцца з **Хуліа Іглесіасам**, які прыехаў у Мінск, каб даць канцэрт 19 ліпеня, пажадаў сам **Аляксандр Лукашэнка**. Пасля сустрэчы прэзідэнт накіраваўся на канцэрт сусветна вядомага спевака – каб пераканацца, што той сапраўды спявае не горш, чым пра гэта расказваюць.

# Сюрпрыз ад «народнага прэзідэнта»

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

Днямі ў паштовых скрынках жыхароў Мінска з'явілася цікавае выданне, на «шапцы» якога пад гербам РБ пазначана: «Народны прэзідэнт», орган адміністрацыі прэзідэнта.

У зыходных дадзеных гэтай газеты можна даведацца, што яе рэдактарам з'яўляецца Павел Якубовіч, а ў намесніках ходзяць Шыманскі з Падгайным. У газеце, якая выдаецца накладам 1 млн. 176 тыс. асобнікаў, сабраліся ў калектыў самыя любімыя прэзідэнцкія журналісты: Зімоўскі, Казіятка, Курбека, Кавалёва з Маслюковай, Грышан ды іншыя майстры прыгожага слова.

Цікавыя і матэрыялы нумару газеты. З іх, напрыклад, можна даведацца, як ударна і паспяхова працуюць лесарубы з прэзідэнцкага ўпраўлення справаў, якім кіруе Іван Ціцянкоў. Аказваецца, толькі дзякуючы пастаяннаму клопату галоўнага «заўхоза» краіны, які прадае лес з беларускіх запаведнікаў за мяжу, нашыя спартсмены маюць магчымасць ездзіць на спаборніцтвы, а ў Мінску ўзводзяцца лядовыя палацы. А Аляксандр Лукашэнка ў сваім інтэрв'ю Зімоўскаму прызнаецца, што пойдзе са сваёй пасады толькі тады, калі яго аб гэтым папросяць рабочыя, і скардзіцца журналісту, што ў сілавых структурах шмат ненадзейных людзей, якія не хочуць прымяняць сілу супраць дэманстрантаў.

Людміла Кавалёва з радасцю паведамляе чытачам аб вялікім будаўніцтве прэзідэнцкіх спартыўных пляцовак, што разгарнулася ў Драздах. А Генадзю Курбеку ўдалося разгаварыць асабістага ахоўніка прэзідэнта Аляксандра Лукашэнікава. Цела-ахоўнік паведамляе шмат цікавага аб асабістым жыцці і захапленнях Лукашэнкі. Напрыклад, аб тым, як любіць Аляксандр Рыгоравіч аўтамабілі і вельмі часта сам сядае за руль.

Уладзімір Замяталін у інтэрв'ю прызнаецца, што вельмі ганарыцца, калі яго параўноўваюць з Ёзэфам Гебельсам. Бо гітлераўскі міністр прапаганды быў ідэолагам вялікай краіны, у якой ён правёў 5 рэферэндумаў.

Застаецца дадаць, што хутчэй за ўсе самі героі і аўтары матэрыялаў газеты-улёткі «Народны прэзідэнт» наўрад ці ведаюць пра яе існаванне. Хто ж аўтар выдання на самой справе — невядома. ■



ЦЫТАТА НУМАРА

**Некоторые коммерсанты сами суют свои руки в наручники... И мы должны уберечь их от этого.**

*А.ЛУКАШЕНКО*
*заседание Совета предпринимателей, 19.07.99*

## Мінская міліцыя пераведзеная на ўзмоцнены рэжым

**БелаПАН**

Як паведамілі афіцыйныя крыніцы, мінская міліцыя пераведзеная на ўзмоцнены рэжым нясення службы. Гэта звязана з запланаванымі на 20—21 ліпеня масавымі акцыямі, якія рыхтуе апазіцыя.

Напрыканцы мінулага тыдня ў беларускай сталіцы з'явіліся агітацыйныя ўлёткі, якія заклікалі грамадзянаў узяць удзел ва «ўсенародным святе з нагоды заканчэння афіцыйнага тэрміну праўлення Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі». Згодна з тэкстам улётак, акцыя пачнецца 21 ліпеня а 16-й гадзіне і будзе праводзіцца ў цэнтры горада. У яе праграме — «касцюмаванае начное прадстаўленне тэатра «Бывай», конкурсы, канцэрты, сасіскі і прахаладжальныя напоі», а таксама марш «Развітанне славянкі» ў выкананні аркестра і рок-праграма «Дэмбель-99».

Арганізатары гэтых мерапрыемстваў нагадваюць: «У адпаведнасці з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь першы Прэзідэнт быў абраны тэрмінам на 5 гадоў... Нягледзячы на тое, што ўсе абяцанні прэзідэнта не выкананыя — напрыклад, цэны за 5 гадоў узраслі ў 14 разоў, рэальная зарплата знізілася ў 4 разы, пераважная большасць насельніцтва жыве за рысай беднасці, карупцыя пануе ў краіне, 70 працэнтаў прадпрыемстваў ператварыліся ў стратныя, а падман і істэрыка льецца патокам з экранаў і рэпрадуктараў, — мы павінны праводзіць Прэзідэнта ў адстаўку па-людску, без скандалаў і папрокаў», — гаворыцца ў агітацыйных улётках. ■

## У Гродна таксама будуць святкаваць

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

Святочныя гулянні, прысвечаныя даце 21 ліпеня, будуць праходзіць 21 ліпеня ў Гродне ў раёне плошчы Леніна пасля 16:00. Такую інфармацыю паведаміў НАВІНАМ вядомы гродзенскі прадпрымальнік Валерый Леванеўскі.

Таксама стала вядома, што пасля 16:00 у раёне будынка гродзенскага лялечнага тэатра адбудзецца бясплатная раздача цукерак і шарыкаў. Па інфармацыі таго ж Леванеўскага, плануецца, што гродзенскія рынкі ў гонар свята ў гэты дзень працаваць не будуць. ■

## Салідарнасць па-украінску

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

Тры фракцыі Вярхоўнай Рады Украіны прынялі сумесную заяву, якая тычыцца даты 20 ліпеня. У заяве гаворыцца, што гэты дзень — апошні, у які прэзідэнт Лукашэнка можа лічыцца дэмакратычна абраным прэзідэнтам. Дэпутаты ацэньваюць цяперашнюю сітуацыю ў Беларусі, як «неататалітарную ідэалогію, якая ўяўляе пагрозу еўрапейскай бяспецы».

Сёння ў Кіеве будзе праходзіць пікетаванне амбасады Беларусі на Украіне. Каля 200 пікетоўшчыкаў маюць намер паказаць сваю салідарнасць з дэмакратычнымі сіламі Беларусі. Ініцыятарамі пікета выступаюць партыі «Рэформы і парадак» і Народны Рух Украіны. ■

## Стыпендыі імя камуніста Грамыкі

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

У нядзелю беларускія ўлады сціпла адзначылі 90-годдзе з дня нараджэння «свайго славутага земляка», шматгадовага міністра замежных справаў СССР Андрэя Грамыкі. З гэтай нагоды для студэнтаў факультэта міжнародных зносінаў БДУ ўведзеныя спецыяльныя імянныя стыпендыі імя Грамыкі. Цяперашнія беларускія ўлады называюць Андрэя Грамыку, які нарадзіўся ў Веткаўскім раёне Гомельскай вобласці, адным з самых выбітных дыпламатаў 20-га стагоддзя і, відаць, лічаць, што нашыя будучыя супрацоўнікі МЗС і амбасадаў за мяжою ў сваёй працы павінны браць прыклад з гэтага кіраўніка савецкага знешнепалітычнага ведамства.

Грамыка на працягу 28 гадоў ўзначальваў МЗС СССР. Заходнія дыпламаты не маглі зразумець прычынаў палітычнага доўгажыхарства Грамыкі. Яшчэ ў 60-я гады намеснік дзяржсакратара ЗША Гарыман спытаў Мікіту Хрушчова, за якія ж заслугі Грамыку так доўга трымаюць на пасадзе міністра. Адказ савецкага лідэра быў простым і вельмі паказальным: «Калі мы скажам яму — здымі штаны і сядзь на ільдзіну, ён будзе сядзець столькі, колькі патрэбна». Вось такі быў выбітны палітык, які для цяперашніх беларускіх уладаў з'яўляецца ледзь не ўзорам дыпламата-прафесіянала. ■

## Скварцоў паляціць у Германію

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

У прэзідэнцкім атачэнні чакаюцца новыя перастаноўкі. На вакантную пасаду беларускага пасла ў Германіі адправіцца прэзідэнцкі прэс-сакратар Уладзімір Скварцоў. Хто яго заменіць у прэс-службе, пакуль невядома. Па звестках, атрыманых у міністэрстве замежных справаў, У.Скварцоў ад'едзе ў Германію ў жніўні. У гэтай амбасадзе ён ужо працаваў дарадцам і прымаў актыўны ўдзел у арганізацыі паездкі ў Германію Лукашэнкі, які сустрэўся з тагачасным кандыдатам у канцлеры ФРГ Г.Шродэрам.

У жніўні мінулага года У.Скварцова прызначылі прэс-сакратаром. На гэтай пасадзе ён вызначыўся тым, што не правёў ніводнай прэс-канферэнцыі для журналістаў. ■

# Падвядзенне вынікаў

**20 ліпеня ўвойдзе ў гісторыю як апошні дзень легітымнага кіравання першага беларускага прэзідэнта. Падводзячы рысу пад пяцігадовым тэрмінам праўлення краінай Аляксандра Лукашэнкі, мы выпрашылі апытаць вядомых палітыкаў, што ў розны час працавалі пад яго кіраўніцтвам, а таксама палітолагаў і простых грамадзянаў. Ім былі зададзеныя тры пытанні: «Якімі падзеямі ўвойдзе ў гісторыю пяцігадовае праўленне Аляксандра Лукашэнкі?», «У якой сферы жыццёвай дзейнасці лепш за ўсё можа рэалізаваць сябе Аляксандр Лукашэнка?», «Якія з перадвыбарчых абяцанняў выканаў Аляксандр Лукашэнка?».**



**Аляксандр ФЯДУТА, палітычны аглядальнік**

— Пяць гадоў прэзідэнцтва Лукашэнкі застануцца ў гісторыі пяцццю падзеямі: яго выбранне; увядзенне цэнзуры; расправа з гістарычнымі сімваламі Беларусі; расправа з Канстытуцыяй 1994 года; перадача ім улады, як бы гэта ні адбывалася: ці шляхам выбараў, ці іншым чынам. Усякі ўладар наогул застаецца ў гісторыі дзвюма падзеямі — увацарэннем і зыходам.



**Канстанцін СКУРАТОВІЧ, аглядальнік**

— Перад Лукашэнкам была эпоха застою, а пяць гадоў прэзідэнцтва Лукашэнкі — эпоха дэградацыі. Ва ўсіх сферах жыцця: эканоміцы, фінансах, культуры, палітыцы, міжнародных адносінах. Вось менавіта як дэградацыя гэтыя 5 гадоў і застануцца ў нашай гісторыі.

## ПЫТАННЕ ПАЛІТОЛАГАМ

### Какими событиями войдет в историю пятилетнее правление Александра Лукашенко?



**Петр ВАЙЛЬ, писатель**

— Пальбой по американскому воздушному шару. Признанием Гитлера образцом политика. Выселением иностранных представителей из резиденции «Дрозды». Разумеется, эти события не главные за годы правления Лукашенко – но именно они вывели Беларусь на первые полосы всей мировой прессы. И еще более важное: эти акции объединяет их трагикомический характер – вот что характерно для лукашенковского пятилетия. Его самого слушать, на него самого смотреть – нельзя без смеха и без ужаса.



**Анатолий СТРЕЛЯНЫЙ, писатель**

– Прежде всего теми событиями, что привели к государственному перевороту в Беларуси, в результате чего был установлен особый режим личной власти Александра Лукашенко. Этот режим один московский журналист удачно назвал «азиопской демократией».



**Юрий ДРАКОХРУСТ, политический обозреватель**

— На мой взгляд, пять лет правления Лукашенко открыли такую правду о белорусском народе, которую, может быть, лучше было бы и не знать. Одним из самых главных событий за время его правления было его избрание. Лукашенко шел к власти, абсолютно не скрывая того, что он собирается делать. И его избрали именно за это. Можно перечислять много важных событий, которые произошли за пять лет, но, пожалуй, лучше сказать об их главном смысле. На мой взгляд, он заключается в том, что мы поняли, насколько уязвима общественная свобода, как легко ее можно отобрать, причем отобрать так, что подавляющее большинство этого даже не заметит. Эти пять лет стали свидетельством поражения белорусской интеллигенции, поражения, в первую очередь, интеллектуального. У нас просто не хватило мозгов, чтобы остановить этого человека. Ну, и еще чрезвычайно важным событием стало то, чего не произошло – Беларусь осталась независимой. И если лишить ее независимости не удалось даже Лукашенко, значит, наша страна обречена на независимость.



**Александр ПОТУПА**

— Пятилетка президентуры дала нам абсолютно бесконтрольную ветвь государственной власти. То есть диктатуру в чистом виде. Свернуты рыночные реформы, по сути, произошел возврат к плановому командно-административному ограблению нищего населения. Практически загнаны в диссидентский режим структуры гражданского общества. Плюс фантастическая гиперкоррупция формально нищих чиновников. Плюс откровенно антиевропейская бульдожья стойка. Плюс крайне опасные попытки сдать страну в обмен на сохранение абсолютной власти под российским «ядерным зонтиком». И еще множество плюсов, которые есть сплошные минусы в смысле перспектив достойного развития. Сплошная цепочка потерь. А главное приобретение — сгущающаяся атмосфера страха, безумно заразная, как всякое безумие. Одних – за свою безумно необъятную власть. Других – за свою безумно подешевевшую жизнь.



**Павел ШЕРЕМЕТ, журналист**

— Александр Лукашенко войдет в историю тем, что за время своего руководства Республикой Беларусь несколько раз изменил свой взгляд на мир и несколько раз переориентировал политику страны на 180 градусов. То он любил все российское и ненавидел западное, то наоборот. Был период, когда он ненавидел все белорусское, в том числе и белорусский язык. Я думаю, что скоро наступит момент, когда он полюбит белорусский язык и все белорусское. Лукашенко останется в истории страны как первый яркий авторитарный руководитель.

**20 ліпеня ўвойдзе ў гісторыю як апошні дзень легітымнага кіравання першага беларускага прэзідэнта**

## ПЫТАННЕ ПАЛІТЫКАМ

### Як вы лічыце, у якой сферы жыццёвай дзейнасці лепей за ўсё зможа рэалізавацца Аляксандр Лукашэнка?



**Зянон ПАЗЬНЯК, лідэр БНФ**

— У канакрадстве. Гэта вельмі яму пасуе – як па ягоным паходжанні, так і па ягоных якасцях. Ведаеце, як цыганы гандлявалі конямі? Надзімалі дохлага каня, які ўжо не мог хадзіць, устаўлялі затычку і прадавалі. Вось так у нас надзьмулі ўвесь народ, але цяпер затычка выцягнутая. З Лукашэнкам заўсёды атрымлівацца так.



**Андрей САННИКОВ, координатор Хартии'97 по международным связям**

— Не хочацца пакрыўдзіць ніякую прафесію. Можа, старшыной у расійскай арміі.

**Сямён ШАРЭЦКІ, старшыня Вярхоўнага Савета**

— Няхай гэта будзе галаўным болем самога Лукашэнкі.

**Статья 81. Президент избирается на пять лет непосредственно народом Республики Беларусь на основе всеобщего, свободного, равного и прямого избирательного права при тайном голосовании. Одно и то же лицо может быть Президентом не более двух сроков.**

*Конституция Республики Беларусь*

## ПЫТАННЕ НАРОДУ

### Якія з перадвыбарчых абяцанняў выканаў прэзідэнт Лукашэнка?



**Віктар, пенсіянер**

— Выканаў абяцанне аб саюзе з Расіяй, а вось астатняе — не ведаю, наўрад ці.



**Ала, інжынер**

— Ну, дзіцяці бачна, што нічога не выканаў. Але аднаму чалавеку цяжка штосьці зрабіць, вось ён і не можа.



**Ігар, канструктар**

— Ну, нейкая барацьба з карупцыяй вядзецца, але вось наконт абяцанняў запусціць вытворчасць, тут наўрад ці ён выканаў. Ды і то — карупцыі ў нас менш толькі ў параўнанні з Расіяй.



**Ігар ДУЛЬСКІ, абітурыент**

— Ну што, заробак усе атрымоўваюць своечасова, стабільнасці стала болей, не тое, што ў Расіі. Лепш, чым было да яго, як ён і абяцаў.



**Барыс, інжынер**

— Нічога ён не выканаў, нічога не зрабіў, каб Беларусь стала нармалёваю дзяржаваю, трэба яго мяняць тэрмінова!



**Сямён Сямёнавіч, радыёмайстар**

— Бандытаў разагнаў у розныя бакі... Для пачатку можа і хопіць!



**Алёна, студэнтка**

— Інтэгруецца з Расіяй, а ў астатнім нічога не выканаў.



**Таццяна, кладаўшчык**

— Неяк дваяка ўсё: па тэлевізары кажуць, што ўсё выканаў, а вынікаў не бачна.



**Мікалай ЯКАВЕНЕЦ, інжынер**

— Ведаеце, ён нічога так асабліва можа і не выканаў, але ж горш не стала, завод мой працуе.



**Мікола ЛУГАЎЦОЎ, студэнт**

— Ну, заводы, як абяцаў, так і «запусціў», яны амаль вылецелі ў трубу. З Расіяй як тая прастытутка з блатным, толькі чакае моманту, калі прысмактацца – як і абяцаў!



**Сяргей, рабочы (не сфатаграфаваўся)**

— Адзінае, што ён выканаў, — не даў развалідца эканоміцы, але яна засталася на мяжы развалу. А што не выканаў, дык гэта не дае свабоды людзям, таму і адмаўляюся сфатаграфавацца.



**Іна САЗАНОВІЧ, аператар**

— Што ён выканаў? Ды самі бачыце, абяцаў шмат, а не выканаў нічога. На цяперашні момант стала значна горш.

**Апыталі Аляксей ШЫДЛОЎСКІ, Уладзімір ШЛАПАК (фота)**

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

# Справа «крылатых драпежнікаў»

## Спонсар расійскіх «беркутаў» абяцае інеставаць грошы ў беларускую эканоміку, калі яго адпусцяць пад падпіску аб нявыездзе

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

**«Беларускія ўлады хочуць зрабіць мяне «крайнім», — заявіў расійскаму консулу арыштант Селівончык.**

Затрыманы беларускай міліцыяй расійскі грамадзянін Анатоль Селівончык адмаўляецца ўдзельнічаць у следчых дзеяннях, якія вядуцца па справе аб інцыдэнце ў вёсцы Мікалаеўка Светлагорскага раёна. Расійскі бізнесмен патрабуе забеспячэння яголых правоў і вызвалення «пад падпіску аб нявыездзе». Селівончык паранейшаму не прызнае сябе вінаватым у тым, што адбылося ў вёсцы Мікалаеўка.

Нагадаем, што 30 чэрвеня 120 падлеткаў з Сургута на чале з дарослымі выхавацелямі правялі ў Мікалаеўцы «зарніцу» — імітавалі захоп вёскі «карнікамі», з наступным вызваленнем яе «нашымі войскамі». Аперацыя «Багратыён» была праведзеная настолькі «бліскуча», што больш за 10 мясцовых жыхароў звярнуліся ў міліцыю са скаргамі, што «іхня вызваліцелі» іх усяляк абражалі і нават збівалі. Пачалося следства. На сёння адзіным вынікам яго стаў арышт расійскага бізнесмена беларускага паходжання Анатоля Селівончыка, які спансіраваў прыезд у Беларусь юнакоў з Сургута. Між тым непасрэдныя арганізатары «манеўраў» — кіраўнік напаўваенай юнацкай школы «Беркут» і ягоныя намеснікі — былі дэпартаваныя з Беларусі.

Селівончыку прад'явілі абвінавачванні ў арганізацыі масавых беспарадкаў, ягонай справай занялася пракуратура. Гісторыя ўзятая пад кантроль у Савеце бяспекі. Днямі з Светлагорска Селівончыка перавялі ў следчы ізалятар Гомеля, што таксама сведчыць пра грунтоўнасць намераў беларускіх уладаў.

Паводле апошніх звестак, з Анатолем Селівончыкам удалося сустрэцца расійскаму консулу Уладзіміру Трутнёву. Сустрэча адбылася не адразу, а толькі пасля настойлівых спасылак расійскага дыпламата на канвенцыю аб прававой дапамозе грамадзянам Беларусі і Расіі. Паводле нашых звестак, Селівончык заявіў консулу, што ягоныя правы «ў няволі» неадназова парушаліся. Яму не была своечасова аказаная юрыдычная дапамога, не згодны ён і з абвінавачваннем у арганізацыі падзеяў у Мікалаеўцы. Ён настойвае, што ягоная роля ў гэтых падзеях не большая за ролю «спонсара». Анатоль Селівончык перакананы, што беларускія ўлады не хочуць разбірацца з сапраўднымі вінаватымі ў інцыдэнце, у тым ліку з мясцовымі кіраўнікамі, а яго трымаюць у закладзе. Арыштант заявіў, што адмаўляецца ўдзельнічаць у следчых дзеяннях да тае пары, пакуль усе ягоныя правы не будуць забяспечаныя. Пры гэтым, па звестках НАВІНАЎ, Селівончык звярнуўся ў пракуратуру краіны з просьбай выпусціць яго з-за кратаў пад падпіску аб нявыездзе. Узамен бізнесмен абяцае садзейнічанне з паступленнямі ў Беларусь значных інвестыцыяў з Сібіры. ■

ЗАМЕЖЖА

# В США выпускают на свободу кубинцев. На очереди — белорус

**CNN, IREX**

Служба иммиграции и натурализации США выпустила на свободу 39 человек, в основном граждан Кубы, которые совершили различные преступления на территории США. В это же время в Сиэтле были назначены слушания по аналогичному делу 25-летнего белорусского гражданина Дениса Батюченко. Он содержится под стражей около 20 месяцев за разбойные нападения, похищение людей и сопротивление представителям правопорядка. ■

ВАЙНА

# Уильям Коэн: Милошевич не получит политического убежища в Беларуси

**Abcnews, IREX**

США отрицательно относятся к планам сербской оппозиции организовать президенту Югославии Слободану Милошевичу политическое убежище в третьей стране, заявил министр обороны США Уильям Коэн. По его словам, единственное место, где ждут С. Милошевича, — военный трибунал в Гааге.

Такой комментарий был сделан в связи с полученной Белым Домом информацией о том, что сербская оппозиция работает над вариантом организации для Милошевича политического убежища в Ираке или Беларуси, что является быстрым и сравнительно безболезненным вариантом отстранения его от власти. Несмотря на то, что официальные представители США ранее заявляли о том, что выступают за отставку Милошевича, теперь Уильям Коэн жестко дал понять, какой они видят эту отставку.

Накануне высокопоставленный представитель Белого Дома сделал заявление, что страна, которая предоставит С. Милошевичу политическое убежище, будь то Ирак или Беларусь, неминуемо столкнется с санкциями международного сообщества. ■

СУДОВЫ ПРАЦЭС

# Правовое беззаконие

## Кого защищает главный белорусский адвокат Наталья Андрейчик?

**Валерий ЩУКИН, правозащитник**

**Противодействие оказанию правовой помощи запрещается. Так записано в Основном законе нашего государства, и ни один нормативный акт не может противоречить этой норме конституционного права.**

Однако, к громадному своему удивлению, я узнал, что председатель Республиканской коллегии адвокатов Наталья Андрейчик утверждает иное. В своем интервью «Советской Белоруссии» (№108 за 22 мая 1999 года) эта профессиональная правозащитница заявила: «защитнику разрешается общаться с арестованным человеком только (!) после предъявления тому обвинения». Обоснование этому Наталья Иосифовна видит в статье 53 УПК.

Я правозащитник по зову сердца, а не по диплому (по нему я инженер-механик), но юридические акты осваиваю так же глубоко, как и нормативные документы технического характера. Перечитав несколько раз упомянутую главным белорусским адвокатом статью 53 Уголовно-процессуального кодекса, в которой говорится о правах и обязанностях защитника, я так и не нашел в ней этого самого «только». Наоборот, в УПК записано: подозреваемый имеет право на защиту (статья 14). Подозреваемый — это человек, которому обвинение не предъявлено, но право на защиту он имеет. И статья 14 УПК конкретизирует, применительно к уголовному процессу, конституционное право каждого на юридическую помощь. Более того, часть вторая данной статьи обязывает орган дознания или следствия обеспечить подозреваемому возможность защищаться. Почему эту правовую гарантию гражданам, предусмотренную Уголовно-процессуальным кодексом, недоговаривает главный белорусский адвокат?

О том, что защитник допускается к участию в деле и до предъявления обвинения, говорится также в статье 49 УПК. И, чтобы соблюсти требования статьи 49 УПК, следователь или дознаватель при задержании гражданина или заключении его под стражу до предъявления обвинения обязаны сказать подозреваемому о его праве на защитника.

Вообще-то, по смыслу статьи 14 УПК, напоминать о праве на юридическую помощь следователь или дознаватель должны всем подозреваемым, которых допрашивают, а не только тем, кого задержали или заключили под стражу. Но это уже, как говорится, «высший пилотаж»: формально по закону напоминать они не обязаны. А вот не допустить к подозреваемому или свидетелю защитника права не имеют.

В реальности же, о чем в вышеуказанном интервью говорит и сама председатель Республиканской коллегии адвокатов, белорусские следователи лишают подозреваемых юридической помощи. Об этом же свидетельствует и мой, уже довольно богатый, опыт правозащитной деятельности. Причем делают это не только в райотделах милиции. Даже в прокуратуре республики (!) в январе 1999 года, после подписания протокола о задержании, попирая статью 49 УПК, мне отказали не только в допуске защитника к дальнейшему делу, но даже не дали возможности по телефону проинформировать адвоката о задержании.

Кто, как не Республиканская коллегия адвокатов, должен громогласно заявить об антиконституционности действий следователей, покушающихся на неотъемлемое право каждого гражданина на юридическую помощь? Вместо этого председатель коллегии Наталья Андрейчик на всю страну заявляет, что защитнику разрешено общаться с арестованным человеком только после предъявления обвинения. Получить разъяснения от главного белорусского адвоката лично я не смог, так как Наталья Андрейчик от встречи с правозащитником В.Щукиным категорически отказалась.

Но противодействие оказанию правовой помощи — только начало правового беспредела. Человека, попавшего в руки наших правоохранительных органов, в Беларуси годами неправомерно держат за решеткой в следственных изоляторах. А ведь максимально допустимый срок содержания под стражей при расследовании преступлений не может продолжаться более полутора лет. По истечении этого срока обвиняемый подлежит немедленному освобождению (часть третья статьи 92 УПК). Для дальнейшего лишения свободы необходим уже приговор суда.

Что говорить о простых смертных, коли даже по делам, находящимся под личным контролем главы государства, арестованных содержат под стражей более полутора лет (В.Старовойтов, В.Леонов...). В Прокуратуре республики отказались ответить на мой вопрос, на каком основании находится в СИЗО депутат Верховного Совета 13-го созыва Андрей Климов, у которого официально объявленный срок содержания под стражей закончился еще 11 июня 1999 года. Не удалось получить разъяснение по этому вопросу и в Республиканской коллегии адвокатов. Предлагаю профессионалам ответить на этот вопрос через прессу. ■




● 22 июля 1999 года начнется рассмотрение дела депутата ВС **Андрея Климова** в суде Ленинского района г.Минска

ДАКУМЕНТ

# Резолюция ПА ОБСЕ по вопросу о ситуации в Беларуси

**(Принята 09.07.99 в Санкт-Петербурге)**

Парламентская ассамблея ОБСЕ,

**1.** Напоминая о своей озабоченности в связи с ситуацией в Беларуси, что отражено в декларации шестой ежегодной сессии в Варшаве;

**2.** Отмечая продолжающееся существование серьезных разногласий между политическими силами в Беларуси;

**3.** Принимая во внимание предстоящие парламентские выборы, которые запланированы на 2000 год;

**4.** Помня о том, что срок действия мандата Верховного Совета XIII созыва и действующего законодательного органа истекает в 2000 году;

**5.** Отмечая недостатки в избирательной системе Беларуси в прошлом,

Парламентская ассамблея ОБСЕ,

**6.** Настоятельно призывает все политические силы в Беларуси сотрудничать в процессе конструктивных переговоров и искать выход из политического тупика;

**7.** Продолжает поддерживать работу консультативно-наблюдательной группы (КНГ) ОБСЕ в Беларуси, прежде всего в том, что касается наблюдения за ситуацией с правами человека и за политической ситуацией в Беларуси;

**8.** Предписывает специальной рабочей группе Парламентской ассамблеи ОБСЕ по Беларуси следующее:

**а.** продолжать свои усилия по вовлечению всех сторон в целенаправленный диалог по вопросу о выборах, который начался во время последнего заседания в Бухаресте,

**б.** расширить рамки политического диалога в Беларуси, с тем чтобы провести выборы в условиях, о которых смогут договориться все политические стороны и которые приведут к взаимоприемлемым результатам,

**в.** стремиться к координации и реинтеграции других международных организаций в Беларуси, прежде всего в том, что касается оказания технической помощи в подготовке к предстоящим выборам (содействие в разработке закона о выборах, наблюдение за СМИ и их развитием, проведение учебных мероприятий для избирательных комиссий, а также местных наблюдателей и т. д.);

**9.** Призывает правительство Беларуси

**а.** согласиться, чтобы процедура и ход проведения выборов соответствовали обязательствам ОБСЕ, и

**б.** предоставить политическим партиям и оппозиционным группам время на государственном телевидении и радио;

**10.** Просит, чтобы правительства государств ОБСЕ и международные организации выразили свою поддержку развитию демократического избирательного процесса в Беларуси и предоставили такую помощь, которая уместна и необходима.

*Организация по Безопасности и Сотрудничеству в Европе*
*Консультативно-Наблюдательная группа Беларусь*

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі. Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996
Выдаецца з 16 студзеня 1998 г. В.а. галоўнага рэдактара і заснавальнік Павел Жук. Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ. Адрас для карэспандэнцыі: 220034, г. Мінск, вул. З.Бядулі, 6-47. Тэл./факс: 236-89-40.
E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 573 Нумар падпісаны ў друк 19/07/99 (15:00) Наклад — 16.690